

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№11 (211) ЛІПЕНЬ 2016 ГОД

У ЦЭТРЫ ЎВАГІ

## ШТО Ў БАЗЕ ВАКАНСІЙ?

**У ліпені 2016 года ў агульнарэспубліканскай базе вакансій па Шумілінскаму раёну маецца ўсяго толькі 19 вакансій на 37 працоўных месцаў.**

Змяншэнне попыту на рынку працы Шумілінскага раёна прывяло да таго, што ў базе вакансій стала больш вольных месцаў. Цалкам верагодна, што гэта выклікана тым, што грамадзян ужо не турбуе падатак на «тунеядцаў», які дзейнічае з мінулага года. Менавіта гэтым выклікана сітуацыя, што колькасць беспрацоўных на «біржы працы» Шумілінышчыны скарацілася за год са 159 чалавек да 85. Пры гэтым узровень беспрацоўя зменшыўся амаль у два разы: з 1,8% да 1%.

Аднак разам з тым у раёне назіраецца трывожнаятэндэнцыя: падзеннеузроўня канамічна актыўнага насельніцтва. Так, колькасць насельніцтва, занятага ў эканоміцы за першае паўгоддзе мінулага года была — 8 539. А на сённяшні дзень ужо саставіла 8 167, як бачна — скарацілася на 372 чалавекі.

Найбольшая колькасць вольных месцаў маецца ў Шумілінскім райспажыўтаварыстве — 12. Тут толькі прадаўцоў патрабуецца шасцёра з прафесійна-тэхнічнай адукацыяй і заробкам за месяц у 230 рублёў. Апроч таго, патрэбны два тавараведы с вышэйшай адукацыяй (аклад — 300 рублёў), галоўны інжынер (400 руб), начальнік аддзела транспарту ( 300 руб) і два аператары ЭВМ (250 руб).

На другім месцы па-ранейшаму трымаецца раённая бальніца — 7. Сюды зноў запрашаюць пяцёра ўрачоў-спецыялістаў: стаматолага, эндакрынолага, анэстэзіёлага, урача функцыянальнай дыягностыкі (усім па 450 руб). Маюцца месцы для дзвюх медыцынскіх сёстраў (250 руб).

Астатнія арганізацыя выглядаюць куды больш сціпла. У аддзел культуры запрашаюць акампаніятара (Обальскі ГДК) і мастацкіх кіраўнікоў у Амбросавіцкі СДК і Язвінскі СДК. Аклады па 230 рублёў.

Белдзяржстрах чакае двух агентаў (аклад 230 руб) па Каўляўскаму і Дабейскаму сельсаветам. У райбыткамбінат патрабуецца галоўны бухгалтар (400 руб), у Шумілінскае ПМС — інжынер-гідратэхнік.

База вакансій па Шумілінскаму раёну прысутнічае і на нашым сайце shumilina.by— карыстайцеся!..

**Алесь Шумскі**

ЭКАНОМІКА

## ПАКАЗЧЫКІ ВЫКАНАЛІ, А СТРАТЫ РАСТУЦЬ?

**На пасяджэнні Шумілінскага райвыканкама чыноўнікі падвялі вынікі выканання паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна і выканання бюджэту раёна ў першым паўгоддзі бягучага года.**

Як заўсёды, здзіўляе некаторымі паказчыкамі наша сельская гаспадарка. Паводле афіцыйных даных, за першае паўгоддзе тэмп росту валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі склаў 104,1% да ўзроўню мінулага года. Вытворчасць мяса таксама вырасла і склала 108,1%, пры гэтым рост забяспечаны за кошт вытворчасці мяса птушкі і свініны. Аднак ужо вытворчасць малака склала 93,1%.

Пры гэтым дапушчаны рост невытворчага выбыцця жывёлы, аж на 1804 (!) галавы скарацілася пагалоўе буйной рагатай жывёлы. За кошт нізкай якасці малака, яго таварнасці, рэалізацыі БРЖ гаспадаркі раёна недаатрымалі больш за 9,5 млрд рублёў.

У галіне прамысловасці таксама нібыта назіраўся рост. Так, рост прамысловай прадукцыі склаў 110,3%: УП ЖКГ – 107,7%, Обальскі керамічны завод – 121,1%. Вырас экспарт тавараў на 46,8% да мінулагодніх паказчыкаў. Прадукцыю на экспарт рэалізоўвалі ОКЗ, "Славянскі прадукт", "Вежа", "ІскПоіск", "Альянспластрэсурс", "МВ-17". Сёлета асвоены новыя рынкі збыту ў Кітаі, Польшчы, Нідэрландах, Швейцарыі. Скараціўся да 93,7% рознічны тавараабарот.

Аднак разам з тым адзначана нерэнтабельную работу большасці прадпрыемстваў (па раёне мінус 4,1%), рост колькасці стратных прадпрыемстваў болей, чым удвая – 11 (у 2015 годзе было 4). Негатыўны ўплыў аказвае вялікая дэбіторская і крэдыторская запазычанасці.

Старшыня райвыканкама Аляксандр Снараў патрабаваў ад падначаленых выправіць негатыўных з'яў, павелічэнні прадукцыйнасці працы і эфектыўнасці выкарыстання працоўных рэсурсаў, паляпшэнні якасных паказчыкаў прадукцыі. У сваю чаргу абласны сыноўнік - старшыня камітэта эканомікі аблвыканкама Святаслаў Зароўскі, які ўдзельнічаў у пасяджэнні, заўважыў, што трэба сур'ёзна запытаць з кіраўнікоў, якія дапусцілі невыкананне прагнозных паказчыкаў.

**А. Прылуцкі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

## ПРА МАЙСТЭРСТВА РАБІЦЬ ДАЎГІ НЕ РАСКАЗВАЮЦЬ

**На Шуміліншчыне сабралі подпісы ў падтрымку кандыдата ў «Палатку» Віктара Міраша, прадстаўніка ад кіруючай вертыкалі.**

У раёне завершылася працэдура вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання. Шумілінскія выбаршчыкі паставілі больш за дзве тысячы подпісаў за гарадоцкага майстра рабіць даўгі.

Кандыдатаў маюць права вылучаць працоўныя калектывы, палітычныя партыі, а таксама грамадзяне шляхам збору подпісаў.

У Шумілінскім раёне амаль завершаны збор подпісаў у падтрымку кандыдатуры Віктара Міраша, першага намесніка дырэктара ААТ «Віцебская бройлерная птушкафабрыка», які вылучаецца па Гарадоцкай выбарчай акрузе № 21. Пад час арышту дырэктара птушкафабрыкі сенатара Ганны Шарэйка Міраш стаў выконваючым яе абавязкі і за няпоўных два гады перlabel передавое прадпрыемства ў даўжніка.

Апроч таго, два гады таму ў суседняй Гарадоччыне абсалютнай большасцю галасоў Віктар Вікенцьевіч Міраш быў абраны старшынёй Гарадоцкага раённага Савета дэпутатаў 27-га склікання. Перад гэтым ён працаваў дырэктарам Гарадоцкай птушкафабрыкі і пакінуў прадпрыемства з вялікімі даўгамі.

Паводле каардынатара ініцыятыўнай групы Ларысы Маладзечкінай, за кандыдата ў дэпутаты палаткі паставілі свае подпісы ўжо 2270 жыхароў раёна. Каардынатар паведаміла паведаміла, што выбаршчыкі нашага раёна «актыўна падтрымліваюць» кандыдатуру Віктара Міраша, людзям імпануе, што ён працуе ў рэальным сектары эканомікі, займаецца вытворчасцю".

Але як займаецца Міраш вытворчасцю выбарцам на шуміліншчыне не расказваюць.

**Я. Вайтовіч**

НАСЕЛЬНІЦТВА

## ДЭМАГРАФІЯ ЗА ДВА МЕСЯЦЫ

За два апошніх месяцы наш раён пабагацеў на 36 дзетак — у траўні нарадзілася 15, а ў чэрвені — 21.

14 шчаслівых сямейных пар — ці гэта не дасягненні для Шумілінскага раёна, калі за два месяцы распаліся ўсяго толькі чатыры сям'і?

У траўні пабраліся шлюбам 4 пары, у чэрвені дадалося яшчэ 10 новых сямейных пар.

Пры гэтым дзве пары аформілі свае адносіны ў аддзеле загса райвыканкама, па адной — у Обальскім і Светласельскім сельскіх савtargeted. Яшчэ шэсць пар распісаліся у аддзеле загса райвыканкама, дзве — у Лаўжанскім сельвыканкаме і па адной у Мікалаеўскім і Обальскім сельсаветах.

За травень-чэрвень у Шумілінскім раёне памерла 58 чалавек, у тым ліку 5 з іх былі працаздольнага ўзросту. Па прычыне хвароб сістэмы кровазвароту пайшлі з жыцця 17 чалавек, ад старасці — 14.

Анкалагічныя захворванні забралі жыццё у 7 чалавек. Ад знешніх прычын загінулі 5 чалавек, у тым ліку адно дзіця, якое нядаўна патанула ў рацэ Заходняя Дзвіна.

Насельніцтва Шумілінскага раёна няўхільна змяншаецца, зараз тут пражывае 18 тысяч 263 чалавекі. У тым ліку ў Шуміліне — 7 тысяч 437 чалавек, у гарадскім пасёлку Обаль — 2 тысячы 395 чалавек.

**Алесь Прыбярэжны**

ЭКСПАРТ

## "КАШЭРНАЯ" ГАРЭЛКА З ШУМІЛІНА

**Шумілінскую гарэлку «Partisan» у Германіі рэкламуюць білбордамі з "замілаванымі мужчынамі".**

У Нямеччыне з'явілася рэклама гарэлкі «Partisan», якая выrabляецца ў горпасёлку Шуміліна, з выявай двух маладых мужчын, якія цалуюцца на фоне сабора Васіля Блажэннага і слоганам «Not The Russian Standard».

Рэклама размешчана на білбордах у Кёльне і Берліне, а таксама на старонцы прадукту ў Facebook, дзе суправаджаецца подпісам «Geht's um Vodka, lieben wir Russland. Geht's um Liebe, sind wir # NotTheRussianStandard», што прыблізна можна перавесці як« Што тычыцца гарэлкі – мы любім Расею. Што тычыцца любові – у нас не рускі стандарт».

Характэрна, што гарэлка гэтага брэнда выrabляецца не ў Расеі, а ў гарадскім пасёлку Шуміліна Віцебскай вобласці на вытворчым унітарным прадпрыемстве «Славянскі прадукт». На нямецкім сайце брэнда падкрэсліваецца, што беларускі рэгіён заўсёды быў вядомы выключным якасцю сваёй гарэлкі, а гарэлка «Partisan» выrabляецца з выключна чыстай вады і адборнай пшаніцы. На сайце «Славянскага прадукта» заяўляецца, што гарэлка ў 40 ° – моцная, як сапраўдная мужчынская дружба.

У 2014 годзе гарэлка «Partisan», як і шэраг іншых спіртных напояў гэтага вытворцы, атрымала сертыфікат кашэрнасці. Гэты дакумент выдаў равін іўдзейскай рэлігійнай абшчыны Віцебска Шымшон Даніэль Ізаксон. У ім гаворыцца, што пералічаныя гарэлкі кошерного ў любы дзень года, акрамя свята пэйсы. Праўда, тэрмін дзеяння сертыфіката скончыўся яшчэ ў кастрычніку 2015 года. Магчыма прадпрыемства не змагло яго падоўжыць, так як равін Ізаксон ў пачатку 2016 гады стаў галоўным равінам Вільнюса і з'ехаў у Літву.

КУЛЬТУРА

# КОНКУРС-АГЛЯД "ПАДЗЯЛІСЯ ТАЛЕНТАМ"

**На дзевятым аглядзе-конкурсе мастацкай самадзейнасці ў Глыбокім выступалі прадстаўнікі з Шуміліна.**

Абласны камітэт прафсаюза работнікаў мясцовай прамысловасці і камунальна-бытавых прадпрыемстваў Віцебшчыны сумесна з кіраваннем ЖКГ вобласці правялі ў Глыбокім дзевяты агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці пад дэвізам «Падзяліся талентам».

Паводле старшыні Віцебскага абкама прафсаюза Ларыса Волкавай, сёлетні конкурс быў прысвечаны Году культуры. Чыноўніца выказала ўпэўненасць, што конкурс дасць новы штуршок развіццю самадзейнасці на прадпрыемствах сістэмы ЖКГ і бытавога абслугоўвання, адкрые новыя імёны.

Удзельнікаў прывітала намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама Таццяна Малатаўнік. А затым выступленні самадзейных артыстаў з Віцебска і Лёзна, Шуміліна і Новалукомля, Оршы і Паставаў, Полацка і Докшыц, іншых райцэнтраў у раённым Доме культуры ацэньвалі жыхары райцэнтра і, вядома ж, строгае журы. Прынамсі, выбраць самага лепшага з паўтара дзесяткаў салістаў, сярод вакальных груп, харэаграфічных і арыгінальных нумароў, выканаўцаў гутарковага жанру (усяго – восем намінацый) было вельмі складана.

Песняй «Зорачка» не толькі выкананнем, але і ўменнем трымацца на сцэне, прыродным артыстызмам усіх заваражыў Сяргей Цвяткоў з Лёзненскага раёна. Сярод салістак не было роўных Юліі Скрыпко, працаўніцы бухгалтэрыі Віцебскага прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак. Лірыка-патрыятычную песню «Балада пра маці» яна выканала настолькі пamaйстэрску і пранікнёна, што і ў маладых, і ў пажылых слухачоў на вачах былі слёзы. Журы адзначыла і высокае майстэрства Таццяны Галавач з Докшыцаў, якая прачытала верш «Не забывайце маці».

**Алесь Прыбярэжны**

ГРАМАДСТВА

# ЗАБЫЛІ ПРА ДЗЯЦЕЙ

**У Шумілінскім раёне налічваецца 102 чалавекі, якім надалі статус гэтак званых абавязаных асоб: мужчын і жанчын. Большасць з іх трапілі ў складаную жыццёвую сітуацыю ў выніку злоўжывання гарэлкай.**

На гэты раз чарговае пасяджэнне раённай камісіі па справах непаўналетніх прайшло пад кіраўніцтвам намесніка старшыні райвыканкама Ірыны Шалахавай. Паводле слоў Ірыны Іванаўны, да нерадзівых бацькоў павінны быць выкарыстаны ўсе механізмы ўздзеяння. Аднак ці азначае гэта, што прынятыя меры будуць эфектыўнымі? І што пасля паседжання камісіі яны будуць абавязкова працаўладкаваны, за іх яўкай на работу будзе наладжаны строгі кантроль, а зробленыя грошы пойдуць на кампенсацыю выдаткаў, затрачаных дзяржавай на ўтрыманне дзяцей?

Пераважная большасць нядобранадзейных бацькоў – гэта ж вядома асобы, якія з-за гарэлкі зусім не даглядаюць сваіх дзяцей. Нямала і такіх, што стаяць на мяжы пазбаўлення бацькоўскіх правоў і адабрання дзяцей.

Галоўная задача мэта камісіі па справах непаўналетніх, якая пры гэтым ставіцца — дабіцца усведамлення дарослымі ўсёй згубнасці злоўжывання спіртным, неабходнасці сумленнай працы, наладжвання нармальнага чалавечага быту.

Варта заўважыць, што вынікі працы чыноўнікаў не прападаюць дарам. Ёсць у раёне і станоўчыя прыклады. Так, адзін жыхар з вёскі Пабеда стаў на шлях выпраўлення. Цяпер ён не мае прагулаў на рабоце, адмовіўся ад спіртных напояў, навёў парадак у хаце. Калі справа так пойдзе і далей, то бацьку могуць вярнуць сына з прытулка.

Напрыканцы пасяджэння камісіі былі разгледжаны адміністрацыйныя справы, у якіх правапарушэнні здзейснілі непаўналетнія.

**Алесь Прыбярэжны**

У ЦЭТРЫ ЎВАГІ

# ТЕЛЕФОННЫ ДЫЯЛОГ

**Чарговую прамую лінію правёў і прыём грамадзян правёў старшыня райвыканкама Аляксандр Снараў. На гэты раз спектр пытанняў, з якімі звярталіся грамадзяне Шуміліншчыны, быў вельмі шырокі і разнастайны: ад прыватызацыі жылля да абароны хатняй жывёлы ад драпежнікаў.**

Гэты фармат «сустрэчы» ўлады з грамадзянамі стаў адным пакуль што з самых эфектыўных спосабаў вырашэння мясцовых праблем. Меры аператыўнага рэагавання, якія прымаюцца пасля тэлефонных зваротаў, ужо дазволілі зняць шмат якія пытанні на месцах.

На прамую телефонную лінію кіраўніку раёна пазванілa 11 жыхароў. Найперш разглядаліся самыя значныя сацыяльныя звароты. У прыватнасці, найбольш актуальныя пытанні былі па прыватызацыі жылля.

Напомнім, што з 1 ліпеня гэтага года спынены прыём заяў на прыватызацыю. Зараз усё непрыватызаванае жыллё аўтаматычна перайшло ў разрад камерцыйнага і ў жніўні за яго трэба будзе плаціць арэндную плату. Менавіта таму тэлефонны званок з аграгарадка Амбросавічы пачаўся са скаргі на спецыялістаў ААТ "Прыазёрны мір", якія нібыта завалакіцілі выдачу даведак, так неабходных для прыватызацыі жылля. Аляксандр Снараў адрасаваў гарачае пытане заяўніка сваім падначаленым –

супрацоўнікам Шумілінскага райвыканкама, каб тыя больш аператыўна яго вырашылі. Таксама з Амбросавіч прасілі дапамогі з рамонтам кватэры.

Увогуле, груз камунальных праблемаў, які чамусці пастаянна ўзнімае мясцовае насельніцтва ніяк не палягчаў за апошні час. І сапраўды, не будуць жа самі насельнікі зносіць закінутыя дамы ў весцы Пабеда, добраўпарадкаваць пад'ыходы да смеццевых кантэйнераў на вуліцы Шумілінскай і пад'езды да могілак у Светласельскім сельсавеце. Гэтым павінны займацца адпаведныя службы, якія і было дадзена даручэнне.

А калі са столі пацякла вада ў кватэру, ды яшчэ па электрычных правадах, дык тады жыхары ўжо не званяць, а ідуць на прыём да старшыні асабіста. Так, дзве жанчыны паскардзіліся Аляксандру Іванавічу на дзіравыя дахі, рамонт якіх дырэктар жыллёва-камунальнай гаспадаркі Іван Штуро ўзяў на асабісты кантроль.

З вёскі Лажок, што месціцца каля Башнёў, адна вясковая жыхарка прасіла ўратаваць ад ваўкоў. Небяспечны драпежнік выразаў авечак, застаецца рэальная пагроза і другой жывёле, якая пасвіцца ў электрапастуху.

**У. Амбросаў**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# АДШУКАЛІ ВЕЛАСІПЕД

**Яшчэ ў чэрвені ў міліцыю звярнулася жыхарка Шуміліна, якая паведаміла аб крадзяжы веласіпеда "Стэлс-навігатар" са шматкватэрнага дома.**

У пачатку ліпеня крадзёж удалося раскрыць. Як высветлілася, двухколавы транспартны сродак з пад'езда дома скраў адзін 19-гадовы жыхар Шуміліна

Веласіпед перададзены гаспадыні. А на маладзёна заведзена крымінальная справа.

# ШУМІЛІНСКІ «ХІМІК»

**Міліцыя выявіла аднаго жыхара райцэнтра, які ва ўласнай хаце «варыў» ацэціраваны опій — асабліва небяспечны моцнадзеючы наркотык.**

Як вядома, у траўні супрацоўнікамі Шумілінскага РАУС праводзілася спецыяльнае мерапрыемства "Мак-2016". Пры абследаванні жылога фонда прыватнага сектара ў адным з дамоў быў выяўлены спецыфічны, рэзкі пах растваральніку. Як аказался, не выпадкова – работнікі міліцыі знайшлі ў хаце цэлую хатнюю наркатычную лабараторыю. Тут быў поўны набор: макавая сыравіна, растваральнік, прыстасаванні для вырабу наркотыкаў. А саматужным «хімікам» аказаўся мясцовы жыхар, які раней ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за выраб і захоўванне наркатычных сродкаў. Мужчына «варыў» ацэціраваны опій — асабліва небяспечны моцнадзеючы наркотык.

Паводле старшага следчага райаддзела Следчага камітэта Віктара Казлоўскіага, супраць мужчыны была ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 328.1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Незаконны без мэты збыту выраб, перапрацоўка, набыццё, захоўванне, перавозка ці перасылка наркатычных сродкаў,псіхатропных рэчываў». Па гэтым артыкуле ён можа быць пазбаўлены волі тэрмінам да пяці год. У ходзе следства мужчына прызнаўся, што мак ён збіраў на прыватных агародах.

Пра тое, што нельга вырошчваць мак, пастаянна паведамляецца ў СМІ, вядуцца прафілактычныя гутаркі. Але асобных грамадзян не палохае і тое, што за наркаўтрымліваючыя расліны на агародзе можна атрымаць штраф да 20 базавых велічынь. Увогуле, з пачатку дзеяня спецпраграмы „Мак-2016" супрацоўнікі райаддзела міліцыі склалі 16 адміністрацыйных пратаколаў на тых гаспадароў, дзе на іх агародах вырошчваліся наркаўтрымліваючыя рас-ліны.

**Сяржук Крупскі**

ІНВЕСТЫЦЫІ

# СПАРТЫЎНЫ КОМПЛЕКС

**Чатыры гады таму ў Шуміліне пачаліся работы па рэканструкцыі фізкультурна-аздараўленчага комплексу. Цяпер плануецца ў бліжэйшы час адкрыццё больш сучаснага спартыўнага комплексу, якога даўно чакалі прыхільнікі здаровага ладу жыцця і актыўнага адпачынку.**

Бадай што, усе асноўныя будаўнічыя працы практычна завершаны. Засталося ўсталяванне трэнажораў, прычым маецца выбар па якасці і кошту.

На першым паверсе спартыўнага комплекса размесцяцца распранальні і душавыя, на другім – трэнажорная зала, залы для заняткаў настольным тэнісам, аэробікай і фітнесам.

Генеральны падрадчык – Шумілінская ПМК-70, якая зараз будуе басейн.

Паводле Андрэя Мазанкова, намесніка аддзела адукацыі, фізкультурна-аздараўленчы комплекс будзе карыстацца папулярнасцю ў насельніцтва.

Любы аматар актыўнага адпачынку знойдзе занятак на свой густ. Адначасова ў спартыўным комплексе зможа займацца да 50 чалавек.

**Алесь Прыбярэжны**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ДЭНАМІНАЦЫЯ

# ДОЖИЛИ!

**Не четыре нуля надо было убирать с белорусских купюр во время деноминации, а пять. Все пять! И тогда бы мы, как в зеркало, смогли посмотреть на свою нынешнюю жизнь.**

Так, проезд в общественном транспорте стоил бы не 5000 рублей старыми купюрами и не 50 копеек новыми, а знакомые с советских времен 5 копеек за билетик. Хороший ориентир, чтобы сравнивать.

16, 18, 20 копеек в советское время стоила буханка хлеба. Если применить хитрость с пятью нулями и ориентироваться не на нынешние фасовки, а на советский килограмм, то выяснится, что сейчас хлеб стоит примерно столько же. Но если копнуть глубже, то придется признать, что в общем и целом продукты за последние 25 лет очень подешевели. Так, в советское время 2 рубля стоил килограмм говядины, 2 рубля 10 копеек – килограмм свинины и баранины. Сейчас, если применить наш условный счет, гораздо лучшее мясо стоило бы где-то рубль сорок за килограмм. Вот только стали ли мы более сытыми?

За учебники мы платили? Нет. За школьные кружки, секции, факультативы? Нет. За анализ крови, за лечение зубов, за пребывание одинокого старика в доме престарелых?.. Нет, нет и еще раз нет. А сейчас за каждую малость – платим. Дошло до того, что кое-где на деревенских колодцах коммунальщики уже стали устанавливать счетчики воды. 25 лет назад кому про такое скажи – не поверили бы.

Только ни в коем случае не подумайте, что я ностальгирую по советским временам. Мы плохо жили. Страна, где люди вынуждены были покупать себе пальто или костюм на всю жизнь, в лучшем случае на десятилетие, – отвратительна и античеловечна. Но нельзя не признать, что государство все-таки брало на себя хоть какие-то обязательства перед людьми. Сейчас – никаких обязательств. Только дай, дай, дай...

Остался без работы – плати, остался одиноким в старости – плати, отдаешь ребенка в детский сад – покупай игрушки, книжки, туалетную бумагу; ребенок ходит в школу – оплати ремонт; ребенок занимается спортом – оплати его участие в соревнованиях... В тюрьме оказался – так и эту «услугу», предоставленную государством, теперь надо оплачивать! Втом, как обобрать людей, наше государство очень усовершенствовалось, уже просто меры не знает.

Вот только с чего платить? Если применить все тот же ход с пятью нулями, то выяснится, что при ценах, на многое сопоставимых с советскими, (кроме продуктов и спиртного), а на многое – даже больших, мы имеем значительно меньшую зарплату. Так, по последним данным статистики, средняя зарплата в Беларуси составляет 7 миллионов 182 тысячи рублей. Или 718 рублей 20 копеек деноминированными деньгами. Если бы отнимали пять нулей – коль уж мы именно таким счетом ищем эквиваленты с советским временем, – то это бы означало... 72 рубля. То есть зарплата меньше меньшего. Вот и ответ на вопрос, почему, даже имея 7 миллионов рублей зарплаты, теперь особо не разгуляешься. Хотя, как известно, и такой доход – это мечта для большинства граждан страны.

Почему так? Почему 25 лет со времен СССР прошло, войны не было, власть сильна и стабильна, народ все эти годы покорно выполнял то, что от него требовали, но стал беднее и беззащитнее? Четверть века – недостаточный срок? Тогда сколько времени нашей власти нужно, чтобы обеспечить не бла-бла-бла, а реальный рост благосостояния людей? Пятьдесят лет, девяносто, сто?.. Кто до этого светлого завтра доживет – наши дети, наши внуки, наши правнуки или никто?..

Нет, конечно, сегодня есть и те, кто в суровые советские времена и мечтать не мог о жизни нынешней. Например, недавно в интернете появилось видео из Монако, на котором любители редких и дорогих автомобилей засняли Mercedes G63 AMG Brabus B70, стоимость которого не бывает ниже 200 тысяч евро, а в зависимости от комплектации достигает и 500 тысяч. Номера – белорусские: «0101 МИ-7». Этот белорус наверняка хорошо живет, жизни радуется. Причем напомню, что буквы «МИ» на номерах указывают на «министерский статус». Вот только никто не может ответить на вопрос, какое министерство у нас настолько успешно, чтобы позволять себе такие авто? Какой госкомитет, чья администрация, какой чиновник?

Или сейчас идет суд по делу отца и сына Япринцевых. В суде в показаниях свидетелей уже не раз прозвучало слово «миллиардер». Может, Япринцев завод суперприбыльный построил, придумал прорывную технологию, доказал теорему Ферма? Нет, свои капиталы зарабатывал на придворном бизнесе – нефтепереработке. Будто государственные компании не в состоянии закупать в России сырую нефть, потом с большой прибылью продавать на Запад нефтепродукты и отдавать заработанное в бюджет. Однако суперприбыльный бизнес, как засвидетельствовал начавшийся суд, в нашем государстве почему-то оказался под контролем частных компаний – всяких Чижей и Япринцевых. И у последнего денег было столько, что сынок на Форексе умудрился проиграть 30 миллионов долларов. Не рублей – долларов!!! Потом влез в долги, кинул на деньги важных и известных людей, и в результате история дошла до суда.

В стране, где большинство населения балансирует между бедностью и нищетой, 32-летний мажор кидается десятками миллионов долларов!!! У вас такое в голове укладывается?..

А разве мог мечтать кто-либо из руководителей БССР, что он разведет в республике разлюли-малину для избранных, «обеспечит» провалы по всем показателям и обеднение людей, но при этом останется на своем посту да еще будет всех жизни учить? Не мог мечтать!

Я подозреваю, что именно поэтому при последней деноминации не пять нулей белорусские власти убрали с купюр, а только четыре. Чтобы параллели были не столь очевидны. Чтобы, запутавшись в нулях, не каждый осознал, до чего мы дожили...

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# НІВОДНАГА ПРАДСТАЎНІКА РУХУ «ЗА СВАБОДУ» НЕ ЎКЛЮЧЫЛІ…

**Каманда першага намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча накіравала 21 прадстаўніка ў участковыя выбаркамы 108 Каліноўскай акругі ў Мінску. Ніводны з іх, у тым ліку тыя, што збіралі за сябе подпісы, не быў уключаны ў склад камісіі.**

Усяго па 108-109 акругах былі пададзеныя 1160 заявак, распавёў сайту Рух.by сябра ініцыятыўнай групы Губарэвіча, які прысутнічаў на пасяджэнні адміністрацыі раёну, Алесь Славінскі.

Па яго словах, з іх 316 былі вылучаныя партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі 563, зборам подпісаў 205.

«Кожную кандыдатуру зачытвалі асобна, акцэнтавалі увагу на нашых вылучэнцах, што досведу ўдзелу у камісіях не маюць, слаба ведаюць выбарчы кодэкс ці не з'явіліся на сумоўе. Тое ж самае па тых хто вылучаўся зборам подпісаў з 205 акцэнт зрабілі на шасці нашых вылучэнцах», — адзначыў актывіст Руху «За Свабоду».

«Улады пабачылі, што мы робім даволі моцную кампанію і пры сумленным падліку галасоў вынік можа быць не той, на які яны разлічваюць», — пракаментаваў сайту Рух.by выніkі фармавання камісіяў Юрась Губарэвіч.

Па ягоных словах, відавочна, што ў адміністрацыі быў правальваць іспыты. Як бы яны не стараліся імітаваць дэмакратычныя выбары, немагчыма гэта зрабіць, прымаючы тыя жрашэнні, што і раней, працуючы старымі метадамі пад час фармавання камісіяў і падліку галасоў. Першы этап — стварэнне выбаркамаў — паказаў, што нічога не мяняецца і мяняцца




дыферэнцыраваны падыход: падвышаная ўвага была да тых, хто можа падлічыць галасы «рэальна сумленна, не парушаючы закон, адкрыта для назіральнікаў».

«Улады працягвае не будзе: будзе імітацыя дэмакратычных выбараў, але гэта не больш чым спроба шулера прадэманстраваць сумленную гульню», — падкрэсліў Губарэвіч.

**Вольга Быкоўская**

КАМІСІЙНЫ ЗБОР

# 1 РУБЕЛЬ КАМІСІІ

**Вечарам 18 ліпеня прэс-служба Беларусбанка паведаміла, што ад 1 жніўня ў банку ўводзяць камісійны збор у памеры Br 1 за ўсе наяўныя плацяжы. Разбіраемся, што гэта азначае ў рэальнасці.**

**За што будуць браць 1 новы рубель?** Фактычна, за адзін падыход да касавага акенца. Ад 1 жніўня, калі вы захочаце аплаціць нейкія паслугі ў касах Беларусбанка, давядзецца да агульнай сумы дадаць адзін рубель. Пры гэтым няважна, адзін у вас рахунак, альбо адразу дзесяць. У абодвух выпадках банк папросіць у вас адзін рубель камісіі і не больш.

**Ці возьмуць камісію, калі я захачу пакласці ўсяго два рублі на рахунак мабільніка?** Так, возьмуць: касіру Беларусбанка давядзецца аддаць не два, а тры рублі. «Памер збору фіксаваны і не залежыць ад сумы плацяжу. У выпадку, які вы называеце, я б параіла скарыстацца тэрміналам самаабслугоўвання»,—гавораць у прэс-службе Беларусбанка.

**Што з тэрміналамі?** Тут усё нармальна і па-ранейшаму. Яны не будуць браць у вас камісію. Таму калі хочаце эканоміць і раней не карысталіся гэтымі дзіўнымі штуковінамі — самы час навучыцца.

**Ці давядзецца аддаваць рубель, калі я захачу памяняць валюту?** Не. Камісію Беларусбанк збіраецца браць толькі за прыём плацяжоў, таму калі вы захочаце абмяняць рублі на еўра альбо еўра на рублі, ніхто ваш адзін рубель сабе не забярэ.

**Якія яшчэ ёсць выключэнні?** Выключэнняў даволі шмат. Камісія не будзе забірацца, калі вы захочаце перавесці грошы на дабрачыннасць, заплаціць па крэдыце, узятым у Беларусбанку, правесці плацеж праз касіра з дапамогай уласнай банкаўскай карткі. Таксама вызваленыя ад рублёвай камісіі ветэраны Вялікай Айчыннай вайны. Не возьмуць з вас рубля і тады, калі вы захочаце папоўніць свой уласны рахунак…

**Навошта ўсё гэта?** У Беларусбанку Еўрарадыё тлумачаць, што і так амаль апошнімі пайшлі на такі крок: «Толькі Белаграпрамбанк застаўся, усе даўно перайшлі на збор камісіі». Няцяжка таксама здагадацца, што такім чынам банкі спрабуюць абараніцца ад вялізных чэргаў ахвочых аплаціць камунальныя плацяжы. Магчыма, цяпер людзі насамрэч будуць вучыцца карыстацца іншымі метадамі аплаты.

**Ці законныя такія крокі банкаў?** З такім пытаннем звяртаемся да прэс-сакратара Нацыянальнага банка Аляксандра Цімашэнкі. Ён пацвярджае: гэта законны крок. Усе беларускія банкі могуць самастойна вызначаць памер камісіі, якую будуць збіраць за правядзенне плацежных аперацый.

**Алесь Пілецкі**
**«Еўрарадыё»**

НАША ЖЫЦЦЁ

# БІТЫ РЭАКТАР І ЧАРНОБЫЛЬСКІ СЦЭНАР

**Інцыдэнт на будаўнічай пляцоўцы беларускай АЭС здарыўся 10 ліпеня.**

Першапачатковая інфармацыя пра гэта пайшла ад актывіста АГП Мікалая Уласевіча, які жыве ў Астраўцы. 25 ліпеня ён напісаў у Фэйсбуку: «Ня менш за дзясятак незалежных адна ад аднае крыніц на ўмовах ананімнасьці падчас правядзеньня мной пікетаў па зборы подпісаў пацьвердзілі факт падзеньня рэактара пры яго ўстаноўцы ў рэактарным аддзяленьні АЭС... На панядзелак (11 ліпеня. – Аўтар) плянавалася правядзеньне ўрачыстай, у прысутнасьці тэлебачаньня і іншых сродкаў масавай інфармацыі, цырымоніі ўсталяваньня рэактара на яго пастановачнае месца. Аднак 330-тонны агрэгат зь невядомых прычын сарваўся і зваліўся ўніз з вышыні ад 2 да 4 мэтраў».

У той жа дзень, 25 ліпеня, пра гэта напісалі незалежныя мэдыі. Журналісты задавалі пытаньні як дырэкцыі АЭС, так і Міністэрству энэргетыкі Беларусі, але адказаў не атрымалі. Прыхоўваньне інфармацыі пра інцыдэнт толькі больш узбуджала чуткі.

26 ліпеня літоўскі прэзыдэнт Даля Грыбаўскайце выступіла з заявай, што асьцярогі Літвы наконт бясьпекі будаўніцтва атамнай станцыі былі абгрунтаваныя. Яна таксама заявіла, што калі Беларусь ня зробіць захадаў, каб гарантаваць міжнародныя стандарты бясьпекі, то Літва разам зь міжнароднай супольнасьцю пастараецца не дапусьціць працы АЭС.

У той жа дзень генэральны падрадчык будаўніцтва БелАЭС — расейскае акцыянэрнае таварыства «Атамбудэкспарт» — выступіў зь нейкай нязграбнай заявай, нібыта «інфармацыя пра надзвычайнае здарэньне на будоўлі ў Астраўцы Беларускай АЭС не адпавядае рэчаіснасьці», што «корпус рэактара знаходзіцца за межамі рэактарнага аддзяленьня».

То бок, у перакладзе на звычайную мову, нічога не было. Гэта стандартная рэакцыя дзяржаўных структур сёньняшняй Расеі. Вайна ў Данбасе? Мы ні пры чым. Навошта вы бамбіце ў Сырыі не Ісламскую дзяржаву, а апазыцыю сырыйскаму прэзыдэнту Асаду? Не, гэта ня мы, мы бамбім толькі ісламістаў. Расейскія спартоўцы масава прымаюць допінг? Не, гэта дваістыя стандарты, падкопы ворагаў, якія толькі і мараць, каб нашкодзіць Расеі.

Але праз кароткі час у той жа дзень, 26 ліпеня, Міністэрства энэргетыкі Беларусі было вымушана прызнаць, што «няштатная сытуацыя здарылася на пляцоўцы захоўваньня корпуса рэактара пры правядзеньні такеляжных працаў па яго перасоўваньні ў гарызантальнай плашчыні». Нарэшце, больш як праз два тыдні пасьля аварыі!

У заяве Міністэрства энэргетыкі ёсьць і яшчэ адзін цікавы сюжэт. Там паведамляецца, што дырэкцыя станцыі «неадкладна запатрабавала ў генэральнага падрадчыка ўсе неабходныя дакумэнты і зьвесткі». То бок высьвятляецца, што ні Міністэрства энэргетыкі Беларусі, ні дырэкцыя АЭС не валодаюць інфармацыяй, што адбываецца на станцыі, што там робяць расейскія будаўнікі!!!

У гэта цяжка паверыць, але з боку беларускай дзяржавы няма кантролю за самым небясьпечным аб'ектам у краіне! Гэта ў Беларусі, дзе дзяржаўныя органы сочаць за кожным іпэшнікам, за кожным здавальнікам кватэры, дзе КДБ, як нядаўна прызнаўся яго старшыня, сочыць за тым, як апазыцыянэры зьбіраюць подпісы. Гэта называецца, прыехалі!

Узьнікае натуральнае пытаньне: ці можна цяпер выкарыстоўваць гэты рэактар, які ляснуўся з вышыні чатырох мэтраў? То бок — няўжо расейцы ўвапхнуць беларусам біты рэактар?

Нагадаем, у сярэдзіне красавіка на Астравецкай АЭС абрынуліся стойкі будучага будынка ядзернага абслугоўваньня. Пра гэта стала вядома толькі ў траўні ад аднаго рабочага. Улады прызналі інцыдэнт толькі празь месяц і толькі пасьля таго, як тлумачэньняў запатрабавала Літва.

То бок беларускія ўлады паводзяць сябе з абсалютнай дакладнасьцю так, як савецкія ўлады пасьля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Усё хаваюць, і толькі пасьля таго, як пра гэта гучна загавораць за мяжой, скрозь зубы паведамляюць, што нешта адбылося, але ўсё ў парадку, сытуацыя пад кантролем.

Дарэчы, пасьля аварыі ў Чарнобылі савецкія ўлады адрэагавалі раней. Катастрофа здарылася 26 красавіка, а ўжо 28 красавіка галоўная інфармацыйная праграма савецкага тэлебачаньня — «Время» — паведаміла, што на Чарнобыльскай АЭС здарыўся няшчасны выпадак, пашкоджаны рэактар. То бок у СССР адрэагавалі праз два дні, у лукашэнкаўскай Беларусі — больш як праз два тыдні.

Недэмакратычныя рэжымы, якія непадкантрольныя грамадзтву, па-іншаму сябе паводзіць ня могуць. Навошта народу ведаць пра небясьпеку? Ня трэба бударажыць, нічога,ператопчуцца. Калі толькі было прынятае рашэньне пра будаўніцтва Беларускай АЭС, я пісаў, што, акрамя ўсіх іншых прычын, нельга будаваць такі небясьпечны аб'ект у недэмакратычнай краіне, бо калі народ не кантралюе ўладу, можа паўтарыцца чарнобыльскі сцэнар. Але ня мог уявіць, што мае змрочныя прагнозы спраўдзяцца так хутка.

Ужо цяпер можна лёгка ўявіць, як будзе паводзіць сябе кіраўніцтва Беларусі, калі, крый Божа, здарыцца аварыя зь ядзерным рэактарам, які ўжо будзе працаваць. На гэтым тле зусім па-іншаму выглядаюць перасьцярогі і з боку Літвы, і з боку экалягічных рухаў. Няўжо і цяпер ні грамадзкасьць, ні апазыцыя ніяк не адрэагуюць?

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ІНТЭРВ'Ю ГАННЫ

# "БЫТЬ С ЛЮБИМЫМ В ОДНОЙ КЛЕТКЕ — ЭТО МУКА"

**В эксклюзивном интервью «Комсомолке» экс-сенатор Анна Шарейко рассказала, как устала от слежек перед арестом и изменила ли ее колония.**

Два года экс-сенатор и гендиректор известной птицефабрики «Ганна» Анна Шарейко вместе со своей командой провела за решеткой. Особое внимание было приковано к литовскому бизнесмену Вальдемарасу Норкусу, деловому партнеру и любимому человеку Анны Васильевны, который тоже вместе с ней оказался за решеткой. Даже во время процесса они не скрывали чувств, нежно смотрели друг на друга и попросили расписать прямо в СИЗО. Верховный суд фигурантов громкого дела признал виновными, но отпустил в зале суда всех, кроме Норкуса. Он вышел на свободу спустя месяц, 9 июля. В эксклюзивном интервью «Комсомолке» Анна Шарейко и Вальдемарас Норкус рассказали, изменила ли их колония, что оказалось самым сложным за решеткой и когда они сыграют свадьбу.

— Проходите, — приглашает нас спустя некоторое время Анна Шарейко.

Смена картинки настолько поразительна, что сразу теряешься. Еще полтора месяца назад журналисты видели ее за решеткой, и ей грозил солидный срок, сегодня она снова руководитель крупного предприятия. Выглядит как дама с обложки: облегающий стройную фигуру костюм, туфли на высоких каблуках, французский маникюр. Признается, что ее смущает внимание, которое к ней сейчас приковано. А люди узнают везде: и в Витебске, и в Минске.

**— Анна Васильевна, о чем больше всего мечталось за решеткой?**

— Очень хотелось нажарить сковородку яичницы! (Смеется.) А если серьезно, безумно скучала по родным, по их голосам. За два года в СИЗО мне не дали ни одного свидания. Наверное, думали, так легче сломать человека. Но только не меня. Да, я сильно скучала, но держалась изо всех сил. Когда в суде впервые услышала голоса близких мне людей, они еще сутки звучали в ушах.

**— Как вы провели свой первый день на свободе?**

— Собрались все родственники, друзья, дети Валдаса и его отец, устроили душевную встречу! Общались до самой поздней ночи. Но радость омрачало то, что за решеткой остался мой любимый человек. Больше всего мне хотелось оказаться на свободе вместе с ним. Знаете, сидеть рядом в суде за стеклом, при этом нельзя друг друга потрогать, обнять — это мука. Думаешь, ну когда наступит то время, чтобы никто этого не запрещал? И не ругался за это...

Сейчас каждый день общаемся с ним по скайпу, вижу, как дети от него не отходят. Хоть они уже взрослые люди, но такие счастливые рядом с ним, как малые дети.

**«На обыски я смотрела как на концерт»**

**— Этот приговор стал для вас неожиданностью?**

— Свободой запахло, когда прокурор отказался от того, что мы нанесли ущерб в 4 миллиарда рублей и якобы действовали в составе организованной группы. Я до конца не понимала, что происходит, и, услышав про срок в 2,5 года лишения свободы, поняла: мы скоро выйдем на свободу. Правда, до конца верила в оправдательный приговор. Даже за решеткой продолжала жить фабрикой, поэтому, как только нас освободили, вышла на работу.

**— Фотографии того, как подчиненные встречают вас пирогом с солью и цветами, разлетелись по многим СМИ. Было удивительно видеть, что вместе с вами вышли даже те осужденные, которые накануне говорили, что больше на работу ни ногой.**

— В первый день после освобождения мы все, кроме Лиоренцевича (фигурант уголовного дела и бывший сотрудник «Ганны». — Ред.), вышли на работу. Встретились на крыльце здания, и я еще смеялась: «Ну что, организованная группа, заходите, пообщаемся». Каждый из них честно признался, что вернуться на "Ганну" больше не может. Они достойно прошли это испытание, но какой ценой им это далось, никому не известно. Я очень благодарна, что меня окружали специалисты такого высокого уровня, настоящие профессионалы.

**— Решение ваших подчиненных кажется более логичным. Многие были уверены, что вы соберете чемодан и рванете к любимому в Каунас.**

— Я по жизни бегу туда, где надо спасать. К примеру, если у моих друзей и близких все хорошо, я не слишком балую их вниманием, но вдруг что-то случается, тут же мчусь на помощь. Коллектив поддерживал нас все это время и ждал возвращения, я не смогла поступить иначе, кроме того как вернуться на фабрику. Не даю никому 100% гарантии, что смогу вернуть прежнее предприятие, слишком много упущено, но я постараюсь, используя свои знания и опыт.

**— Наблюдая за вами все три месяца, пока шел суд, гадала: как вы переносите заключение? Вы человек энергичный, деятельный, руководитель крупного предприятия — и вдруг оказываетесь в замкнутом пространстве. Порой казалось, что вы прямо в клетке готовы провести планерку, дать указания, решить все вопросы.**

— На суд мы ездили как на работу. Готовились к допросам, показаниям свидетелей, изучали необходимые документы. За два года возможности пообщаться не было, но в суде поняла: никто времени зря не терял, все выстроили грамотную линию защиты. Лично я знакомилась с материалами уголовного дела с 9 утра и до 8 вечера, без обеда, только маленький перекус брала. И так 30 дней. Я хотела его изучить вдоль и поперек. Видела, как защищались мои коллеги, и отметила еще раз для себя, какие они молодцы. И стойкие, и мужественные, и порядочные, и грамотные.

**«В рапорте напишут, будто я хотела бежать из туалета Совета Республики»**

**— Анна Васильевна, вы знали, что летом 2014 года над вами сгущаются тучи?**

— Нет, это было полной неожиданностью. К обыску не готовилась, ничего не скрывала, сама назвала код от сейфа. Я работала честно и открыто, мне нечего было бояться. За 15 лет работы в должности руководителя мой кабинет ни разу не закрылся на ключ, нет ни одной тумбочки на замке. Мой дом обнесен обычной сеткой, целый год я не вешала шторы... У меня нет необходимости прятаться. Ну что у меня нашли в сейфе? Фотографии.

*Продолжение интервью читайте на сайте «Комсомольской правды в Белоруссии»*

**Катерина Борисевич**
**«КП в Беларуси»**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 29.07.2016 у 15.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.